Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл**. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 22. Вільня, Серада, 19-га лістапада 1924 г. Год І.

**У гэтым нумары 6 страніц.**

## Добры прыклад.

Кожын ідэйны рух у першы мамэнт свайго істнаваньня гуртуе найлепшыя сілы грамадзянства,—асабліва тады, калі тых, хто яго вядзе, ждуць ня радасьці і награды,а барацьба з пераважаючымі ворагамі, перасьледаваньні, кары, нэндза, а мо' і сьмерць...

Дый інакш і быць ня можа. І тым і сільны, тым і непераможны такі ідэйны рух, што дзеля вялікае справы прыходзіцца ўсё аддаваць і нічога за гэта не даставаць: гэта робіць найлепшую адборку найлепшых людзей.

Наадварот, калі рух становіцца масавым, шырокім, дый да таго можа *пракарміць* сваіх працаўнікоў, дык, побач з лепшымі людзьмі народу, да яго часта прыстаюць і элемэнты нягодныя, бязыдэйныя, думаючыя толькі аб асабістай карысьці. А бывае і так, што гэныя прычапіўшыяся да хуру „збоку-прыпёку“ фігуры проста пэцкаюць і няславяць і рух, і яго ідэйных дзеячоў.

Гэтае самае бачым мы і ў беларускім адраджэнскім руху. У меру таго, як ён расьце і ўзмацоўваецца, як на беларускім грунце робяцца магчымымі розныя палітычныя афэры і спэкуляцыі,—выходзяць на жэр усялякія цёмныя адзінкі, укручываюцца ў беларускую сям'ю і, здабыўшы гэтак імя „беларускіх дзеячоў“, прадаюць кожнаму, хто заплоце, і беларускую ідэю, і беларускі народ.

Зьявішча гэтае—нямінучае. Але беларускае грамадзянства ня мае права глядзець на гэта, склаўшы рукі, а павінна пільна глядзець, каб у беларускую ідэйную сям'ю не забіраўся ўсялякі бруд,—павінна ўраз-жа выганяць паршывую аўцу, каб не заразіла ўсяго стада.

На жаль, нашае грамадзянства зьяўляецца йшчэ лішне слабым і „мягкацелым“, не знаходзе ў сабе даволі маральнае сілы, каб усялякі бруд гнаць вон ад сябе. І на грунце гэтае „мягкацеласьці“, ці няздольнасьці шчыра абурацца і адцурацца ад маральнага бруду, робяцца магчымымі такія сумныя зьявішча, як знамянітая ў Вільні „валэйшыяда“ і т. п.

Гэтага далей быць не павінна. Адраджэньне беларускага народу павінна грунтавацца на моцных маральных падставах, без якіх наагул немагчыма ніякая барацьба за волю нашага народу. Тым балей, што варожыя нам сілы зусім сьвядома падтрымліваюць сярод нас гэны маральны бруд, ведаючы, што там, дзе няма маральных падстаў, *усё можна купіць* ці то за грошы, ці за „панскую ласку“, або за дастаенствы і іншыя ласыя рэчы.

Калі нашая інтэлігенцыя выяўляе нястачу маральнае сілы дзеля барацьбы з раскладаючымі яго ўплывамі, дык няхай яно гляне ў вёску,—няхай прыгледзіцца, як нашы, на пагляд, такія цёмныя сяляне ўмеюць бараніцца ад маральнага бруду. У адным з апошніх нумароў „Сялянскае Праўды“ была надрукавана карэспандэнцыя, як у Пружаншчыне сяляне вёскі Шэні вядуць барацьбу з накінутым ім войтам — зладзеем, караным за злад зейства па судоваму прыгавору. І хоць прадстаўнікі павятовае інтэлігенцыі (праўда, не беларускае) сказаліся мала чулымі на скандальную прошласьць гэтага чалавека ды спакойна сядзяць з ім за адным сталом на пасяджэньнях павятовага сойміку, вёска адцуралася ад яго і аб'явіла яму *грамадзкі байкот*.

Хай-жа гэтае выяўленьне здаровага маральнага пачуцьця ў нашых сялян пакажа належную дарогу і нашай інтэлігенцыі, якая павінна пільна аберагаць чыстасьць маральнае атмасфэры ў беларускім грамадзянстве. *Да чыстай ідэйнай работы патрэбны і чыстыя рукі!*

## Рэканструкцыя ураду.

### Адстаўка трох міністраў.

12/XI тры міністры—ўнутр. спраў, справядлівасьці і працы—падалі прэм'еру просьбы аб адстаўцы.

### Навакол рэканструкцыі габінэту.

У аўторак прадстаўнікі 4 клюбаў польскай лявіцы зьвярнуліся да прэм'ера з дамаганьнем, каб пры рэканструкцыі габінэту ён увёў у склад ураду „прадстаўнікоў дэмакратычнай думкі“, заявіўшы, што ад выпаўненьня гэтага будуць залежаць іх адносіны да ўраду.

### Пас. Тугутт віцэ-міністрам!..

Паўафіцыяльны камунікат падае, што ў працягу 14/XI мае аканчальна вырашыцца асабісты склад рэфармаванага ўраду. Апошнія тэлеграмы наказуюць, аднак, што да вечара ў чацьвер справа ня вырашылася.

Паслу Тугутту запрапанавана становішча віцэ-прэм'ера (як летась быў Карфанты ў габінэце Вітаса).

П. Тугутт даў сваю згоду, аднак зажадаў, каб звольніўшыяся партфэлі міністраў былі аддадзены асобам, якія будуць прыемлемымі для п. Тугутта.

### Новыя міністры.

У сувязі з выхадам у адстаўку трох міністраў: Гюбнэра — ўнутр. спраў, Выгановскага — справядлівасьці і Даровскага — працы, на моцы паразуменьня паміж п. Грабскім і Тугуттам, прэзыдэнт Рэспублікі падпісаў назначэньне гэткіх асоб:

на становішча **віцэ-прэм'ера — Ст. Тугутт;**

на становішча **міністра ўнутраных спраў** — галава м. Пазнані, прамысловец **Ратайскі**;

на становішча **міністра справядлівасьці** — варшаўскі натарыус **Жыхлінські**;

на становішча **міністра працы** — інжэнер **Сокаль**, прадстаўнік Польшчы ў міжынародавым бюро працы.

## Палітыка новага англійскага ураду.

Як заяўляюць кансэрватыўныя газэты дый самі правадыры партыі і міністры, агульным рэзультатам адбыўшайся ў Англіі зьмены ўраду будзе паварот Англіі ад палітыкі сусьветнай да „палітыкі імпэрыяльнай“. Гэта значыць, што Вялікабрытанская імпэрыя (Англія з усімі сваімі складовымі часткамі—„домініямі“ і калёніямі) — **больш замкнецца** ў сваім жыцьці, — дзеля сваіх уласных спраў і інтарэсаў, пакінуўшы, ці значна абмяжаваўшы той напрамак—„сусьветнага альтруізму“, які распачаў урад Мак-Дональда. Палітыка міжнародавай гармоніі, салідарнасьці — праз Лігу Народаў — уступіць мейсца палітыцы самаабароны і канкурэнцыі.

Як вывад з гэтай агульнай лініі, выплывае перад усім **адмова ратыфікацыі** знамянітага **„жэнеўскага протаколу“**, проці якога высказываюцца англійскія „доміній“.

Ізноў—незалежна ад гэтай усей працы, ў Лізе Народаў—выплывае праект прадаўжэньня працы, пачатай у Вашынгтоне на канфэрэнцыі аб разбраеньні... Гэта значыць, што ізноў заместа перамогшай у „Жэневе“ „францускай тэзы“—высоўваецца — англійская: **сьпярша разбраеньне, а пасьля „дагавор аб узаемных гарантыях проці вайны“.**

Трэцім вынікам агульнага кірунку новай палітыкі будзе адыход ад спраў эўрапэйскіх і зблізжэньне з Амэрыкай, дзе толькі што ўмацавалася прэз. Куліджа, палітыка, вельмі падобная да гэтай англійскай. Англасаксонцы без цэрэмоніі пачнуць панаваць у сьвеце, як яго гаспадары, карыстаючыся перад усім **для сябе** з сваіх вялікіх багацьцяў, срэдстваў і прывілеяў.

Чацьвертым вынікам, цесна зьвязаным з іншымі, зьявіцца мытная палітыка ўраду, якая высокімі мытамі ў значнай меры зачыніць граніцы імпэрыі, **ізалюючы** вялізарны аграрна-прамысловы арганізм Вялікай Брытаніі, ствараючы з яе—асобны, быццам самавыстарчаючы сьвет у сусьвеце.

Пятым вынікам, зусім аналягічна з заявай Куліджа, зьяўляецца заява Балдвіна, што справа ўрэгуляваньня ўзаемных даўгоў між саюзьнікамі будзе вырашана бяз усякага лішняга „альтруізму“ — „на добрых камэрцыйных падставах“.

Шостым вынікам новай адкрытай імпэрыялістычнай палітыкі Балдвіна, Чэмбэрліна і Керзона будзе няўхільна гэтак-званае „падняцьце прэсьціжу“ (павагі) англійскай дзяржавы ў сусьвеце, а перад усім—у „каляровым сьвеце“ — сярод тых мільёнаў так ці інакш паняволеных англійцамі „ніжэйшых“ народаў усіх частак сьвету.

Усе гэтыя лішне „падняўшыя галаву“, — лішне „распушчаныя“ слабым урадам Мак-Дональда народы—трэба будзе „падцягнуць“.

На гэта, як ведама, „вялікі майстар“ лёрд Керзон, даўнейшы „віцэ-кароль“ Індыі, дзе прайшоў добрую „крэсавую школу“.

Але трэба толькі ўспомніць апошнія—пасьлявaенныя і пасьлярэвалюцыйныя „пасьпехі“ Керзона ў Турцыі, дзе якраз яго „мэтада“ толькі дапамагла Турэцкаму народу выгнаць з свайго краю засеўшых там на мейсца немцаў—на правах іх пераможцаў—англійцаў, каб напярод сказаць, што з „падняцьця прэсьціжу“ Англіі на ўсходзе — мэтадамі Керзона — цяпер выйдзе нешта зусім адваротнае. Мусульманскі сьвет падняўся, Кітай, Ягіпет, Арабія, Індыя—усе выставілі лёзунг **вызваленьня** — перад усім з пад англійскага панаваньня. А калі да гэтага дадаць яшчэ і сёмы вынік з агульнай лініі палітыкі англійскік кансэрватараў, зрываючых паразуменьне з СССР, наладжанае Мак-Дональдам, дык можна лёгка зразумець, што роль галоўнага правадыра ўсяго гэтага паўстаўшага проці Англіі „каляровага сьвету“—з асаблівым гумарам, як сваю „каронную ролю“ наагул, будзе іграць СССР.

І тады яшчэ няведама, як утрымаецца ў сваім „spleudix isolation“ (бліскуча-пекным адзіноцтве) пышны англійскі „панскі палац“ — сярод зруйнаванага, згалеўшага сьвету.

**С.**

## З Сойму.

### Апошняе слова прэм'ера Грабскага.

Пасьля таго, як высказаліся ўсе клюбы, прэм'ер узяў слова, каб адказаць на ўсю тую крытыку, якую выслухаў урад.

**Дрэнна ў Польшчы, але ня зусім!**

Прэм'ер згаджаецца, што ў Польшчы—дрэнна, як гэта сцьвярдзілі яўна, ці пасярэдне ўсе клюбы, а перад усім прадстаўнікі сялян і работнікаў; не згаджаецца толькі з тым, што ў Польшчы—„вельмі дрэнна, дый ўсё горш“... Дрэнна ў нас, але што месяць (як сцьвярджаюць... паданыя прэм'ерам лічбы даходаў скарбу ад цукру, тытуню і... гарэлкі!), робіцца ўсё ляпей...

**Лепш, бо п'юць больш... гарэлкі.**

„Кажуць, жартуе, п. Грабскі, што „чым горш жывецца, тым больш народ п'е гарэлку“, але я ў гэта ня веру“... Прэм'ер кажа, што ён зрабіў абмылку, сцьвярдзіўшы ў сваей першай прамове шмат сумных рэчаў у Польскай дзяржаўнай гаспадарцы...

**Лепш, бо так павінен казаць урад...**

Урад не павінен казаць народу аб сумных зьявішчах (!), але, наадварот,—толькі аб тым, што „daje otuchy“... Дык вось і няведама, ці прэм'ер кажа пацяшаючыя рэчы дзеля таго, што гэта — праўда, ці толькі дзеля таго, што „ўрад павінен пацяшаць“ і—„маўчаць аб сумным“?!.

Часовае „завастрэньне сітуацыі“ (! не паляпшэньне?) створана няўраджаем; дык і паляпшэньня трэба чакаць... ад будучага ўраджаю!.. Але

# Сьпешная прапазіцыя.

*Беларускага Пасольскага Клюбу ў справе прымусовага высяленьня з Польшчы праваслаўных духоўных: архіяпіскапаВаладзімера і архімандрыта Ціхана.*

14-га кастрычніка с. г. быў арыштаваны ў манастыры ў Дэрмані, на Валыні, праваслаўны архіяпіскап Валадзімер, гвалтам вывезены ў Варшаву, а пасьля выселены заграніцу—ў Чэхаславакію. Блізу адначасна—15-га таго ж месяца—ў манастыры ў Жыровіцах, Слонімскага пав., быў арыштаваны архімандрыт Ціхан і прымусова выселены ў Нямеччыну. Арышт архімандрыта адбыўся пры гэткіх абставінах: 15-га прыехаў у Жыровіцы Слонімскі стараста з атрадам пешае і коннае паліцыі. Паліцыя заняла ўсё места, акружыла манастыр і сад, зачыніла ўсе выхады, прычым на падмогу паліцыі былі пакліканы вучні тамтэйшае сельска-гаспадарскае школы. Тыя жыхары места, якія хацелі разьвітацца з пастырам і прасіць благаслаўленьня, былі зьняважаны і пабіты паліцыяй і вучнямі школы. Пабіты і зьняважаны гэткія асобы: Язэп Фэленчык, Юлія Сечань, Анна Гудзік, якая і дагэтуль хворая ад пабіцьця, Анастасія Петрашка, пабітая харунжым Каралём Каладзянам, і інш.

Апрача пабіцьця жыхароў, быў пабіты сам архімандрыт Ціхан вывядоўцам Марцінкевічам.

Паводле інфармацыяў сьвецкае і духоўнае ўлады, гэтыя рэпрэсіі проці вышэйшых дастойнікаў праваслаўнае царквы зьяўляюцца вынікам заходаў вышэйшае праваслаўнае духоўнае ўлады ў Польшчы, якая ня прызнана кананічнай архіяпіскапам Валадзімерам і архімандрытам Ціханам—з увагі на іх рэлігійныя перакананьні.

Усе вышэй пералічаныя паступкі дзяржаўнае ўлады прадстаўляюць нарушэньне Канстытуцыі Польскае Рэспублікі.

Арт. 2 Канстытуцыі кажа: „Найвышэйшая ўлада ў П. Р. прыналежыць Народу. Органамі народу ў галіне законадаўства зьяўляюцца Сойм і Сэнат, у галіне выканаўчае ўлады — Прэзыдэнт П. Р., разам з адказнымі міністрамі, у галіне справядлівасьці—незалежныя суды“.

Арт. 3: „Дзяржаўнае законадаўства абыймае выдаваньне ўсялякіх законаў і спосаб іх выкананьня... Загады ўлады, з якіх вынікаюць правы і абавязкі грамадзян, маюць абязуючую сілу толькі тады, калі выданы на падставе закону і з паказаньнем яго“.

Арт. 111: „Ніводзін грамадзянін ня можа быць за сваё вызнаньне і рэлігійныя перакананьн абмяжованы ў правох, прыналежных іншым грамадзянам“.

Арт. 115: „...Адносіны Дзяржавы да цэркваў рэлігійных меншасьцяў будуць устаноўлены дарогай законадаўчай...“.

Ня гледзячы на гэтыя загады Канстытуцыі, выканаўчая ўлада

1) дапускае ўжываньне brachium seculare ў адносінах да прадстаўнікоў праваслаўнае царквы, інакш: сьвецкая ўлада стаецца выканаўчым органам духоўнае ўлады, што пярэчыць артыкулам 2, 3 і 115 Канстытуцыі:

2) накладае кары за рэлігійныя перакананьні;

3) пасягае на правы незалежных судоў, сама вызначаючы кару.

Дзеля вышейшага

Высокі Сойм рачыць пастанавіць:

Заклікаецца Урад 1) ўраз-жа перастаць мяшацца ў унутраныя справы праваслаўнае царквы да часу ўладжаньня гэтае справы законадаўчым шляхам; 2) узяць назад загады аб высяленьні архіяпіскапа Валадзімера і архімандрыта Ціхана і дазволіць ім вярнуцца да краю; 3) пакараць дзяржаўныя ўлады, якія пабілі архімандрыта і жыхароў м. Жыровіц.

Варшава, 4 лістапада 1924 г.

# Аб чым пішуць.

### Эндэкі аб „крэсавых“ справах.

Беларускае пытаньне ў Польшчы ня зыходзе цяпер з страніц польскіх газэт і часопісей. Ужо гэта паказуе, насколькі яно сталася вострым і актуальным. Але эндэцкая прэса хоць самым крыкам сваім сцьвярджае гэтую вострасьць беларускага і, наагул, „крэсавага“ пытаньня, аднак-жа стараецца пераканаць і сваё грамадзянста і ўрад, што дзеля разьвязаньня яго даволі... ўзмацаваць тэрор на „Крэсах“!

„Gaz. Warsz.“ ў пятнічным нумары пасьвяціла гэтай справе перадавіцу, якую распачынае вельмі правільна:

> У ўсходніх ваяводзтвах пануюць ужо сягоньня **ненармальныя адносіны**, **анархія** шырыцца ўсё балей, польскае насяленьне жыве ў стане **пастаяннае трывогі**, а рускае (украінскае) і беларускае губляе пашану да польскага гаспадарства.
>
> Польская апінія павінна здаць сабе справу з таго, што тутака йдзе ня толькі аб бандыцкія напады і аб небясьпеку, ў якой жыве люднасьць цэлага вялікага абшару краю. Перад намі раскрываецца вялікая гістарычная праблема,—праблема, якая ў гістарычным жыцьці Польшчы адыграла рашаючую ролю. Калі добра ўдумацца ў палажэньне ўсходніх ваяводзтваў, то выразна рысуецца перад вачыма, што гэтае палажэньне зьяўляецца далейшым працягам таго, што было ў XVII і XVIII сталецьцях. Рэчпаспалітая ня мела тады яснае і станоўчае крэсавае палітыкі, няпольскае насяленьне на крэсах бунтавалася, пажар выбухаў ад часу да часу, пагражаў цэласьці дзяржавы, а з гэтага пажару карысталі суседнія гаспадарствы, каб мяшацца ў унутраныя справы Польшчы. Рэзультаты ведамы.

Так, рэзультаты ведамы: гэта — падзел Польшчы між Расеяй, Прусамі і Аўстрыяй. І здавалася-бы, што Польшча павінна з гэтае гістарычнае лекцыі зрабіць належныя вывады і хоць цяпер не паўтараць старых абмылак. Бо-ж тады—на ўсе балячкі народныя на Беларусі і Украіне Польшча мела адно лякарства: крывавы тэрор, страшэнныя па сваей жорсткасьці „усьмірэньні“, так па мастацку апісаныя знамянітым польскім пісьменьнікам Сенкевічам... Навучаная вынікамі гэтага „разьвязываньня“ пытаньня аб „Крэсах“, польская палітыка павінна была-б хоць цяпер пашукаць іншае дарогі.

Але эндэкі паказуюць, што яны як быццам праспалі дзьвесьце гадоў і толькі цяпер збудзіліся зо-сну, каб прадаўжаць старую палітыку, загубіўшую ўжо раз Польшчу. Гэтыя людзі XVII сталецьця заяўляюць, што

> „сягоньня насяленьне ўсходніх ваяводзтваў ня мае рэальных прычын бунтавацца проці польскае дзяржавы“,

і заклікае ўрад да палітыкі мінулых вякоў: да ўзмацаваньня тэрору!

> Маем перад сабой некалькі месяцаў часу, бо зімовая пара ня спрыяе паўстанчай дзеяльнасьці. Трэба іх выкарыстаць, каб наладзіць спосабы ўтрыманьня ладу і парадку.

Спосабы гэтыя — „адміністрацыйны нажым“! А ў якім кірунку ён павінен асабліва выявіцца, паказуе віленскі падбрахач эндэцкае прэсы „Dzien. Wil.“. Даводзячы, што „беларускага нацыянальнага пытаньня няма“ і „ніколі ня было“, гэтая газэта кажа, што ўвесь беларускі рух—гэта рух не нацыянальны, а... камуністычны! Як доказ гэтага, обстаўскі орган падае „факт“, што палова Беларускага Пасольскага Клюбу перайшла ў камуністычную фракцыю, і на гэтай аснове крычыць: „бійце іх!“

Мы, аднак, а так сама і тыя самыя нашыя дэпутаты, якіх Обст пералічае, нічога аб гэткім пераходзе ня ведаем!

**А—віч.**

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Канфэрэнцыя аб абароне ўсходніх граніцаў.

8/XI ў Варшаве адбылася вялікая нарада (запраўдны кангрэс!)—ў справе абароны Усходніх граніцаў. У канфэрэнцыі прымалі ўчасьце мін. ўнутр. спраў, як (старшыня), усе ўсходня-крэсовыя ваяводы, шэф генар. штабу ген. Гальлер, віцэ-мін. Ольпіньскі, дырэктары дэпартамантаў мін. ўнутр. спраў, камандзір пагранічн. корпусу ген. Мінкевіч, галоўны камандант дзярж. Паліцыі Божэнцкі, шэф II аддзелу генар. штабу палк. Пайпер, а таксама—рад вышэйшых урадоўцаў службы бясьпечнасьці мін. ўн. спр. і вышэйшых ахвіцэраў ген. штабу.

### Вынятковы стан на „Крэсах“.

Старшыня соймавай адміністрацыйнай камісіі абяцаў віленскаму паслу Зьвежыньскаму паставіць на разгляд на бліжэйшым паседжаньні яго прапазіцыю аб увядзеньні на „Крэсах“ вынятковага стану.

### Арышт бандытаў.

Паліцыя затрымала 2 бандытаў, напаўшых на жыда Воляка ў вёсцы Стаўпішкі, Сьвянцянск. пав.

### Баталія з войскам і паліцыяй.

На фальварак Навіны Ровенск. пав. напала банда з 15 душ. Паліцыя і войска пачалі перастрэлку. Бандыды ўцяклі ў лес. Пагоня не дала рэзультатаў.

У той самы час другая банда спаліла ўсё збожжа ў маёнтку пана Высоцкага. Уцякла ад паліцыі і войска і гэтая банда...

### Замах на ваяводу.

З Торуня наказуюць, што вояводзкі радны Попель зрабіў замах на паморскага ваяводу Ваховяка, выпусьціўшы ў яго 5 рэвальвэрных стрэлаў. Замах ня ўдаўся: ваявода астаўся цэлы. Ранены абараніўшы ваяводу паліцыянт. Чым выкліканы замах, няведама.

### Новы клюб.

Тры пасла, якія толькі што выйшлі з „Wyzwolenia“, стварылі разам з п.п. Балiным і Шакуном новы клюб „Сялянскай незалежнай партыі“.

### Заява клюбу „Wyzwolenie“.

З прычыны выхаду з клюбу „Wyzwolenie“ яго крэсавых сяброў, урад клюбу абвяшчае, што гэтыя крэсавыя пасла былі толькі лішнім цяжарам для клюбу і ў працах яго ніякага ўчасьця ня прымалі...

Дык — акурат таксама, як і... „Крэсы“ для Польшчы!—У гэтым—глыбокі зьмест і сэнс усіх гэных „выхадаў“, „адпадаў“ і „разломаў“ у „Wyzwoleniu“...

### „Хіена“ трашчыць.

У эндэцкім лагеры паніка: „хадэкі“ з Карфантым на чале выходзяць з пакорнасьці і здраджаюць „Хіену“. „Obóz narodowy“—разьбіваецца... „Эндэцыя“ астаецца ў адзіноцтве...

П. Карфанты ў толькі што купленай ад п. Падэрэвскага „Rzeczypospol.“ аб'явіў вайну эндэцыі, „не разьбіраючы спосабаў“. Карфанты выробляе для Грабскага „цэнтра-лев“—лева-цэнтравую большасьць у Сойме.

„Будучына пакажа, ці „Хрысьціянская дэмакратыя“ пойдзе тым шляхам, на які піхае яе п. Карфанты“,—піша „Gaz. Warszawska“.

### „Аграрная рэформа“ ідзе...

Як ведама, новы міністар „reform rolnych“ раскрытыкаваў у першым сваім выступленьні ў зямельнай камісіі сваіх нічога не рабіўшых папярэднікаў і супрацоўнікаў і абяцаў... цераз 3 тыдні падаць новы пекны праект зямельнай рэформы. А пакуль прасіў камісію адпачыць і—не разглядаць праекту, апрацаванага клюбам „Вызваленьне“...

Прайшло ўжо больш месяца... камісія, адпачыўшы, нарэшце сабралася... Але п. міністар—паведаміў яе, што „праца над праектам ужо падыходзіць да канца... і праек у хуткім (але ўжо неакрэсьленым бліжэй!) часе будзе паданы.

Тады вызваленцы паднялі ізноў справу свайго праекту, бо міністар ня споўніў свайго слова...

Але зямельная камісія—таксама, відаць, не спяшаецца з зямельнай рэформай, як і спэцыяльны міністар „зямельных рэформаў“,—і прапазіцыя „Вызваленьня“ была адкінута...

Камісія пастанавіла далей чакаць, ня робячы нічога.

## Заграніцай.

### Ультыматум Клайпэды Літве.

Прыбыўшая ў Коўну дэлегацыя праф. Саюзаў Клайпэды сац.-дэмакр. партыі заявіла літоўскаму ўраду катэгарычнае трэбаваньне правядзеньня ў жыцьцё аўтанамічнага стану для Клайпэды. У прыпадку адмовы ўраду, праф. Саюзы Клайпэды пагражаюць зьвярнуцца з скаргай на літоўскі ўрад да міжнародавых работніцкіх арганізацыяў.

### Прамова Рыкава.

У дзень угодкаў камуністычнай рэвалюцыі старшыня Рады Нар. Камісараў, Рыкаў, на прыёме журналістаў сказаў прамову, у якой, паміж іншым, заявіў, што і з новым англійскім урадам радавы ўрад наладзіць добрыя адносіны, бо гэтага вымагае карысьць абодвух краёў. Паражэньне работнікаў у Англіі — толькі часовае. Прызнаньне Францыяй — вялікая здабыча ССРР. Задача цяпер — апрацаваць і правясьці радава-французкую ўмову.

Сваю прамову Рыкаў закончыў так:

„У гэтым годзе мы в. значна зблізіліся з заходнімі народамі. Гэтае зблізэньне павінна йсьці далей,—каб мы маглі хутчэй памагчы заходнім народам скінуць ярмо імпэрыялізму“.

### „Чыстка“ сярод беларускіх бальшавікоў.

„Руль“ падае, што ў рэзультаце „чысткі“ сярод беларускай бальшавіцкай партыі—з 4.740 сяброў выключана 1.018, з іх 608 служачых і інтэлігентаў. У Менску і Віцебску выключана 28%. Апрача гэтага 1.360 сяброў партыі панясьлі іншыя кары.

Калі варта,—дык і добра.

### Назначэньне Красіна.

Афіцыяльна абвешчана аб назначэньні Красіна радавым паслом у Парыжу, з захаваньнем становішча нар. камісара заграчнай таргоўлі.

### Прызнаньне ССРР Чэхаславакіяй.

Чэскія газэты пішуць аб канешнасьці ў хутчэйшым часе і не пазьней пачатку новага году вырашыць справу прызнаньня ССРР. Усе партыі Сойму, не выключаючы апазіцыі, і ўвесь народ стаяць за наладжаньне адносінаў з магутнай усходняй дзяржавай.

### Пёралом у адносінах Амэрыкі да ССРР.

Амэрыканскі карэспандэнт англ. газэты „Times“ піша, што ў кіруючых кругах Вашынгтону адносіны

# Карэспандэнцыі.

### Языковыя ўставы „памагаюць“

*(З Слонімскага пав.).*

Даведаўшыся з газэт, што Сойм прыняў і ўхваліў закон аб беларускай школе, сход у вёсцы Чэмеры, Слонімскага павету, пастанавіў, каб у іх вёсцы зрабілі „przekształcenie“ істнуючай польскай школы ў школу беларускую. Сходам зроблены сьпісак 80 дзяцей шкаляроў, выстаўлены кандыдат на пасаду вучыцеля, зроблены плян лекцыяў і сьпісак падручнікаў школьных і ўсё, што толькі было патрэбна.

23/IX гэты прыгавор праз упаўнамочаных Баравіка і Буравіча быў аднесены да Чэмерскай Рады Гміннай, якая, разгледзіўшы справу, знайшла, што на гэную школу ўхвалы Рады не патрэба, трэба, каб толькі сьцьвярдзіў „Ужонд“ гміны. Пісар і войт падпісалі, і ўпаўнамочаныя паньсьлі паперы да Слонімскага школьнага інспэктара п. Кажана.

25/IX інспэктар прыняў дэлегацыю і зазначыў, што, як з гэнай справай зрабіць, ён ня ведаець, бо няма яшчэ распараджэньня зьверху, а тым часам хай дзеці ходзяць у школу польскую. На гэта ўпаўнамочаныя сказалі, што дзеці ў вёсцы Чэмеры ня пойдуць у польскую школу, бо нічога папольску ні дзеці, ні іх бацькі не разумеюць, што за тры гады польская школа не навучыла ня толькі пісаць ці чытаць, але нат‘ і лічыць папольску да дзесяці, што ў вёсцы ўсе беларусы і няма ніводнага, хацеўшага вучыць сваіх дзетак папольску, што за ўвесь час істнаваньня польскае школы хадзіла ня больш, як 20 дзяцей замест 80 і то пад прымусам, бо баяліся кары. Пан інспэктар такі стаяў на сваём, сказаўшы, што, пакуль у вёсцы ёсьць школа польская, ня можа быць і гутаркі аб школе беларускай. Пан інспэктар у той самы дзень прыслаў вучыцеля і мусіць даў яму суровую інструкцыю, бо, прыехаўшы ў вёску, вучыцель адразу разаслаў павесткі для кожнага вучня, каб зараз-жа ішлі да школы, а не—будуць караны. Атрымаўшы павесткі, бацькі вельмі перапалохаліся, ня ведаючы, што ім рабіць. Яны ў сваім прыговоры напісалі, што складаюць з сябе абавязак плаціць кары за не пасылку сваіх дзяцей у польскую школу, а тут на! Штраф кары.

Найбольш палахлівыя паслалі дзяцей. Вучыцель пачаў вучыць. Праз якія пару тыдняў ён напалохаў дзяцей так, што тыя з вялікім страхам пераступаюць цераз парог польскай школы. За гэты час ён пабіў і вельмі штучна гэтакіх вучняў: дачку Палагеі Хвесені, сына Васіля Дземешэвіча, сына Лукаша Міскі Віктара, сына Андрэя Хрэмчэні і шмат іншых.

На сходзе сялян вёскі Чэмеры 3/XI сяляне радзіліся, дзе шукаць праўды, да каго зьвяртацца, каб хоць не каталі так іх дзетак у польскай школе. Дочка Палагеі Хвесені ў школе зьвярнулася да вучыцеля, каб ён паказаў ёй літару, дык пан настаўнік, узяўшы яе за вушы, пачаў прыгінаць галоўку дзяўчынкі да лаўкі і таўчы лобам аб парту. Б‘ець па патыліцы, па галаве, па плячох, ставіць на цьвіках на каленкі і ўжываець іншыя інквізытарскія спосабы. А сход, сабраўшыся, пабядаваў, ды, пахіліўшы сваю гарамычную галоўку, кажа: „вось якія языковыя законы выпрацаваў для нас беларусоў Сойм, вось да чаго мы дажыліся“. Нат‘ паліцыя ў Слонімскім павеце да гэтага часу ня ўжывала такіх караў для нас, якія цяпер ідуць на „языковых законах“. Разводзяць рукамі сяляне, сумуюць, ня ведаючы ці аштрафуюць за не пасылку дзяцей, ці не? А што як аштрафуюць, ды вывядуць апошнюю кароўку з хлява?! Вось вам і языковыя законы, вось вам і беларуская школа. А пан інспэктар і другі раз упаўнамочанаму ад вёскі Баравіку сказаў, што „да гэтага часу прыгавор ваш у мяне, але няма распраджэньняў зьверху, а калі яны будуць—ня ведаю, а тым часам хай вашы дзеці ходзяць у польскую школу“. Дзеці плачуць, ня хочуць ісьці ў польскую школу, бо баяцца вучыцеля, як вагня, бацькі гоняць дзяцей з хаты,—баючыся штрафаў, і што дня йдуць гутаркі толькі аб языковых уставах.

**Чэмеравец.**

### Б‘юць!

*(Горадня).*

У кастрычніку м., 1923 году наняўся я дворнікам да дамаўласьніка пана Рыгора Дулевіча на Сапэрнай вуліцы № 13. За маю працу п. Дулевіч згадзіўся даць мне кватэру, малую грашавую плату і склеп, дзе я мог палажыць дровы і розны хлам сваёй невялікай гаспадаркі. З маёй працы гаспадар дому быў здаволены, а я быў шчасьлівы, маючы дах над галавою для сябе, жонкі і малых дзетак.

Шчасьце мае цягнулася ня доўга. У гэтым доме самаўпраўна захапіў кватэру пан паручнік з ДОК III Гэпік Марыян. Спачатку гаспадар дому, п. Дулевіч, быў вельмі нездаволены такім кватарантам, але потым яны пагадзіліся паміж сабою і сталі вельмі добрымі прыяцелямі. У хуткім часе пану паручніку падабаўся мусіць склеп, дзе ляжалі мае рэчы, і ён стаў старацца адабраць яго ад мяне. Стаў разам з гаспадаром шукаць прыклёпу на мяне, і вось прыклёп знайшоўся.

У красавіку гэтага году ў Горадні з‘арганізаваўся „związek dozorców“, імкненьне якога — бараніць дазорцаў проціў гвалтаў і несправядлівасьцяў дамаўласьнікаў. Меў шчасьце і я запісацца сябрам гэтага „związku“. Ад „związku“ атрымаў я „Ugodu warunków pracy i wynagrodzenia dozorców domowych“, якую для азнаямленьня падаў гаспадару. Гэта гаспадару не падабалася і, прачытаўшы гэную „угоду“, адказаў, што ён ня будзе бегаць па кватарантам і зьбіраць для мяне грошы, а адначасна загадаў мне, каб я выкінуў свае рэчы з склепу.

З красавіка м. г. г. мне перасталі плаціць, як гаспадар, так і кватаранты. З склепу сваіх рэчаў я ня вынес, бо гаспадар дому ня даў другога месца, затое цяпер прыходзіцца цярпець. 8 верасьня г. г. гаспадар адпраўляў імяніны і, відаць, умоцнілі свае кумпанства з паручнікам, бо назаўтрае, калі мяне і жонкі ня было дома, жонка гаспадара разам з жонкаю паручніка— Міхалінаю і ардынансам паручніка Гілярым Млынарскім выбілі дзьверы ў склепе, і ардынанс па загаду п. паручніковай пачаў выкідаць стуль мае рэчы. Гэта заўважылі мае дзеці і сказалі жонцы. Жонка ня верыла, але хутка сама прыканалася. Спачатку прасіла жонка не выкідаць рэчаў да майго прыходу, але, бачучы, што гэта дарэмна, пачала не даваць. Жаўнер пакінуў выкідаць, але пані паручнікова пачала сьмяяцца з яго, кажучы: „Polski żołnierz i nie może poradzić sobie z kobietą - bolszewiczką!“. Ардынанс, выслухаўшы такую мараль, кінуўся на маю жонку і тры разы кінуў яе аб зямлю. Мая жонка пачала крычаць. На крык выйшлі гаспадар з паручнікам, адаслалі сваіх жанок да пакою, гаворачы, што яны самы парадзяць з гэтаю кабетаю, „zatkną jej pysk“. Яны і парадзілі: паручнік стукнуў колькі разоў жонку плячмі аб сьцяну, а потым адчыніў дзьверы да мойго пакою і кінуў яе туды так моцна, што яна абабіла сабе галаву і ногі аб стаячую тут шафу. Адначасна пан паручнік лаяўся такімі словамі, якія паўтарыць тут ня мейсца. Ад такога пачастунку жонка страціла прытомнасьць, а калі апрытомнела, дык мусіла вылезьці праз вакно, бо дзьверы былі падперты паручнікам і гаспадаром, і пайшла па паліцыянта. Дачка-ж 9-х гадоў, баючыся аставацца ў хаце, па прыкладу маці, хацела вылезьці праз вакно, але, атрымаўшы ад пана паручніка падарунак нагою ў бок, звалілася няпрытомна назад з вакна ў хату. Паліцыянт, нумару якога жонка ня помніць, прыйшоў, паглядзеў на раскіданыя рэчы, плачучых перастрашаных дзяцей і пашоў у пакоі да паручніка, каб даведацца прозьвішча паручніка, дзе і растаяў як цукар, бо больш яго жонка ня бачыла. З кватарантаў ніхто на двор ня выйшаў, пачуўшы голас паручніка, якога ўсе баяцца, як вагню. Дзеялася гэта каля 5—6 гадзіны па палудні.

Я вярнуўся дамоў каля 9 гадзіны вечара. Уся сям‘я ляжала ў пасьцелі, зьбітая, перастрашаная. Даведаўшыся, у чым справа, я паклікаў паліцыянта № 3548 і жандара напісаць пратакол. Пратакол напісалі, але паручнік з гаспадаром з свайго боку напісалі пратакол на маю жонку, дзе паказалі, што мая жонка называла іх „polska morda“, „bandyty“; але гэта, відзіць Бог, няпраўда! Пэўне выйдзе так: „мяне пабілі, мяне судзілі, мяне і пакараюць“.

**Міхал Кулаковскі.**

20 кастрычніка 1924 г.
Горадня, Сапэрна вул. № 13.

### „Адбудова“.

*(В. Бялевічы, Беластоцкага пав.).*

Жыхары нашае вёскі былі страшэнна напалоханы паперай старасты павету. Як-жа не палохацца, калі ў паперы ясна сказана: згодна з пастановай Гарадоцкай гміннай рады, забраць школьны будынак у в. Бялевічах.

Трэба адзначыць, што радныя нашай гміны ўсе—багатыры: было пару бедных, але тых „выгналі“. Сяляне заварушыліся, пытаючыся рады: пыталіся ў войта, але той нічога не парадзіў, толькі сказаў: „забяруць, дык паправяць, а ў вас зьгніе“. Але, дзякуй добрым людзям, яны нам парадзілі сьпісаць пратакол, падпісаць, і прасіць дамагацца роднай школы, што мы і зрабілі. Адалі ня верыцца, каб урад ды дапамог адчыніць школу.

**Мінчук.**

### За што гэтак зьдзекуюцца?!

*(Вёска Міхнавічы, Беластоцкага пав.).*

У нядзелю, 19 кастрычніка, праз вёску Міхнавічы, Беластоцкага пав., прахадзілі польскія ўланы, каторыя затрымаліся адпачыць у тэй вёсцы. Узяўшы вясковага солтыса і падводу, пачалі зьбіраць у вяскоўцаў для сваіх каней па пуду сена, каторае і было ім дадзена. Казалі, што быццам заплацяць; ды ня ведаю, заплацілі, ці не. Даўшы коням сена, пашлі хадзіць па хатах, трэбуючы сабе есьці „jajek i mleka“. Вядома, ніхто ня мог адмовіцца: так яны прасілі „далікатна“ — па воўчу. Мала таго; яшчэ хадзілі самавольна па хлявох, лавілі кур і што ім падабалася.

Ды, дзякаваць Богу, стаялі ня доўга, бо, калі-б пастаялі даўжэй, то палавілі-б усіх кур у вяскоўцаў. Праз некалькі гадзін праз тую-ж вёску ехаў абоз, каторы складаўся з мясцовых вяскоўцаў і так-жа затрымаўся, каб зьмяніць падводы. Жаўнеры, каторыя ішлі з абозам пашлі па хатах, прыказваючы запрагаць коні і ехаць. А, як хто адзываўся, кажучы: няма каня дома, або няма ваза, дык атрымліваў адказ: „milcz!.. ato mordę pobiję“. Прычапіліся да аднаго хлапца, ў каторага дома ня было бацькоў, — Аляксандра Белага, кажучы яму: „dawaj konia“. Хлапец стаў упірацца,

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

кажучы, што няма нікога дома; тагды ўланы пачалі зьдзекавацца над бедным хлопцам перад вачыма некалькіх вяскоўцаў: Білі яго прыкладамі, а хто нагайкай, білі па твару, а другія крычалі: „związać go i do fury“, і ніхто ня мог у абарону беднага хлапца сказаць слова, баючыся за сваю сьпіну: скажы слова, палічаць цябе бандытам і баста.

Выяжджаючы з вёскі, пачалі страляць і лавіць парасят, кідалі шаблямі ў кур, перабівалі ім ногі і забіралі. Нават у аднаго хлапца адабралі маленькага сабачку, а яго зьбілі, чаму не даваў!

**Вачавідзец.**

### „Дабравольны збор“.

*(Маладэчна, Вялейскага пав.).*

28 кастрычніка дзьве тутэйшыя жыдоўскія дзяўчыны хадзілі зьбіраць „дабравольныя“ ахвяры на будову аэраплану. Калі-ж хто адмаўляўся, дык кажуць: „Мусіш даць, бо, калі не дасі, то сам сабе пашкодзіш. Сьпісак ахвяр будзе пераглядаць каманда паліцыі, і хто ня дасьць, таго ўпішуць у „чорную кніжку“, а гэта значыць: чуць што якое, дык і ўпішуць табе пратакол, і штраф заплоціш“.

Вось, як „дабравольна“ зьбіраюцца ў нас ахвяры на абарону „Ojczyzny“...

**Праезды.**

### „Лоўкі улан“.

*(М. Докшыцы, Дунілавіцкага пав.).*

У нашым мястэчку ўжо нейкі час стаяць уланы. Разьмясьціліся яны па хатах у мястэчку: — мусіць дзеля аздобы мястэчка. Тутака на вуліцах мястэчка панастроілі ўсялякіх загарадак, канаваў, брам і скачуць на конях праз іх. Як відаць, нашаму судзьдзі і магістрату, якія маюць пры гэтай вуліцы свае канцаляры, спадабалася гэтае дармавое (бо адзін раз з паноў хадзіўшых глядзець, як скачуць уланы, бралі грошы!) прадстаўленьне, якое робіцца перад іх вокнамі на вуліцы, ды не клапацяцца, каб даць уланам другое мейсца вучыцца гдзе небудзь за мястэчкам, ня гледзючы на тое, што па гэтай вуліцы маючым патрэбу да судзьдзі ці магістрату няма як ні прайсьці, ні праехаць, а жыхарам гэтай вуліцы няма як прагнаць у поле сваю скаціну бяз рызыкі быць падбітым канём, ці засечаным „нялоўкім“ уланам, якія тутака па вуліцы носяцца на конях і сякуць шаблямі пруткі.

Кажу „нялоўкім“, бо ў нас ёсьць „лоўкія“ уланы і „нялоўкія“. Вось-жа слухайце. Ня дужа даўно ў нашае мястэчка прыехаў якісь-то „ўлан“, толькі „другога палку“, бо меў на сабе другую хворму. Колькі дзён гуляў гэты „ўлан“ з „нашымі“ уланамі і нарэшце ўначы забраўся ў стайню нашых „нялоўкіх“, каторыя не маглі ўвартаваць стайні, і, вывеўшы двух каней (аднога з сядлом), уцёк заграніцу.

Апавядаюць, быццам гэты „лоўкі“ улан быў ад бальшавікоў, дзе пайшоў у заклад са сваімі таварышамі, што ўкрадзець ад „нашых“ уланаў коні. Калі гэта праўда, дык заклад выйграў. Цікава, што гэтага „ўлана“ не здалела затрымаць і пагранічная паліцыя ў вёсцы Восава, дзе ён ехаў, а толькі выстраліла ў паветра. Ну, дык ці ня „лоўкі“ гэта ўлан?

**Тутэйшы.**

### Служы прыгон!

*(З Сьвянцяншчыны).*

У маёнтку Данюшава, Жодзішскае гміны, сэрвітутную зямлю пан Кярсноўскі прадаў вёсцы Маркаўцы, а перад гэтым на другім участку сэрвітутнае зямлі лес высек і прадаў, звазіўшы на бераг, ня гледзячы на ўсе пратэсты вёскі, якая сьпярша не давала сеч лесу, але пасьля нейкі пан рэфэрэнт прыехаў з панам Кярсноўскім і ўгаварыў сялян, што лепей высеч, а зямлю пан Кярсноўскі згодзіцца прадаць сялянам, што і зрабілі. Лес зьвезены на бераг Вяльлі, высечаны ўлетку, неяк быў часова заарыштаваны праз паліцыю, але пасьля пан прадаў і сплавіў, а на ўсе пратаколы, што паліцыя рабіла, казаў „трэба гвіздаць“. Цяпер прыйшоў час вёсцы Маркаўцы плаціць дабром за зямлю сэрвітутную, на каторай лес яшчэ расьцець, але ўжо прадана Зэфу (з Вільні) і гэтай зімой пэўне будуць сеч. Дзеля таго, што хлеба сяляне ня маюць, дык адны згодзіліся пану абгарадзіць маёнтак, другія-ж возяць, сеюць, — ну, адным словам, кажуць самі: трэба йсьці служыць „дзела“, замест пайсьці зарабіць які грош на падаткі; а пан Кярсноўскі, кажуць, нават падаткі ня плаціць, а калі і плаціць, дык мізэрныя, бо ён быў „зьнішчаны вайной“, а мы „ня зьнішчаны“.

Адным словам, ад нас адвярнуўся і Бог і людзі. Ня ведаем, якія цяпер парадкі, дык і паступаем, ня ведаючы, але рэдка хто ўспомне пана і яго матку добрым словам. Сяляне помняць яшчэ даваенныя часы, як пані лётала за каморнікам і адразала нашыя шнуры, і без таго вузкія; шмат хто помніць, як аралі нашы дзяды і бацькі папасечныя шнуры, але цяпер вырас там лес, і пан яго прадаў, а нам прадаў тую зямлю, якая калісьці была нашай і за каторую нават судзіліся да вайны, а цяпер за яе ідзем служыць „дзела“, а—не, то выплачвай сотні пудоў жыта, каторага бадай — што няма.

# КААПЭРАТАРЫ! Памятайце аб зьезьдзе паунамоцнікау Віленскага Саюзу Каапэратывау у Вільні 29 лістапада!

# Шліце столькі паунамоцнікау, колькі маеце права!

Гэты пан Кярсноўскі крыўдзіць ня толькі адных нас, але шмат з якой вёскай ён маець суды; напрыкад з Жодзішкамі. Там яшчэ горшая справа, як кажуць нашы сяляне, але што-ж зробіш, калі кажуць, „цяпер іх права", і нас ніхто ня слухае, а яго пусьцяць і да ваяводы, і да міністра, дый, як пану, яму ўсе вераць, а нам? З намі гавораць, як з дурнямі, і калі паедзем пажаліцца, дык толькі ў гміне яшчэ патрапім гаварыць. Дый і гміна залежыць ад Кярсноўскага, бо ён і там наганяець дыхту, з ім лічыцца і пастарунак, адным словам, прымаюць папанску і ўсё яму можна, можна і лес прадаць, і арыштаваны (лес на беразе, каля парому) сплавіць, а нам толькі служы „дзела", ды ўздыхай да Бога, а можа калі Бог і зьлітуецца?! **„Тутэйшы".**

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***

## Культурнае жыцьцё у Радавай Беларусі.

### Беларуская акадэмія Навук.

„Słowo" наказуе:

Цантральны Выканаўчы Камітэт Беларусі пастанавіўператварыць Інстытут Беларускае Культуры ў сталую дзяржаўную вышэйшую навуковую ўстанову, на ўзор Акадэміі Навук. У часе дыскусіі аб гэтай справе прамоўцы адзначалі заслугі бальшавізму дзеля разьвіцьця беларускае літэратуры, тэатру—пад той час, як заходняя часьць Беларусі „стогне пад панскім ярмом".

### Вышэйшыя беларускія курсы ў Менску.

15 кастрычніка курсы распачалі сваю працу.

Асаблівая ўвага зьвернута на беларускую мову, граматыку і гісторыю мовы, якой аддаецца 230 гадзін, а таксама гісторыі бел. літаратуры. Пачэснае месца ў радзе іншых прадметаў займаюць пэдалёгія і мэтодыкі розных прадметаў.

На вывучэньне матэрыялізму і ленінізму з паліт.-эканоміяй даецца 110 гадз. Усяго да канца навуковага году налічаецца 210 вучэбных дзён. Штодзённых заняткаў—6 гадз.

Да выкладаньня запрошаны самыя лепшыя сілы менскіх навуковых установ.

### Вынікі прыёму ў вышэйшыя школы.

У вышэйшыя школы Беларусі ў сёлетнім вучэбным годзе прынята 1087 студэнтаў.

Па нацыянальнасьці студэнцтва разьмяркоўваецца гэтак: беларусаў—642, жыдоў—297, палякаў—9, расейцаў—121, іншых—18.

Па сацыяльнаму становішчу: рабочых — 233, служачых—408, сялян—442, іншых—4.

Паміж школамі студэнты падзяляюцца: Белар. Дз. Унівэрсытэт—470 (мэдыц. факул—132, пэдагаг.—338), Менскі сельска-гаспадарч. Інстытут—167, Горацкі сел. гасп. інстытут—110, Віцебскі вэтэр. інст.—100, Менскі раб. фак. — 110, Аршанскі—100, Горацкі—30.

### Беларусізацыя ў Магілёўшчыне.

Не прайшло яшчэ і году, як магілёўскі пралетарыят і сялянства выканалі сваю волю аб далучэньні Магілёўшчыны да Радавай Беларусі, а ўжо на сьвежа-ўспаханай глебе нацыянальна-культурнага руху закрасавалі першыя ўсходы, усходы беларускасьці.

Акруговы выканаўчы камітэт пастанавіў, каб усе аддзелы і органы акруговага і раёнодных выканаўчых камітэтаў перавялі ўсё дзелаводзтва на беларускую мову ў працягу году ад дня пастановы II сэсіі ЦВК БСР. У першую чаргу пераводзяцца на беларускую мову тыя органы, якія найбольш блізкі да сялянства. Усе супрацоўнікі дзяржаўных органаў павінны ведаць беларускую мову, іначай яны будуць звольнены з пасад і заменены іншымі.

Для ўсіх радавых працаўнікоў будуць наладжаны ў самы кароткі тэрмін курсы беларусазнаўства.

Што-ж датычыць школы, дык у бягучым вучэбным годзе вучэньне ў групах вясковых школ і школ гарадзкога тыпу з пераважаючым лікам дзяцей-беларусаў пераводзіцца на беларускую мову зараз-жа. Школьныя хоры будуць скарыстаны пераважна для вывучэньня беларускай мэлёдыі. Усе ўстановы сацыяльнага выхаваньня будуць з гэтага году забясьпечаны патрэбным лікам беларускіх падручнікаў. Магілёўскі пэдагагічны тэхнікум павінен перавесьці выкладаньне на беларускую мову ў працягу гэтага-ж году. У склад яго выкладчыкаў зараз жа будуць уведзены беларускія пэдагагічныя сілы. Пры тэхнікуме будзе арганізаваны моцны беларускі хор. Беларусізацыі падлягае ў гэтым жа годзе і магілёўскі мэдыцынскі тэхнікум, у якім усе агульна-эдукацыйныя прадметы выкладаньня на I курсе пераводзяцца на беларускую мову.

Усе хаты-чытальні павінны быць забясьпечаны патрэбным лікам беларускай літаратуры і газэт, а галоўным чынам с.-г. літаратурай. У партыйнай школе ў гэтым жа годзе будзе павялічан лік гадзін па беларусазнаўству. Бярэцца курс на перавод школы поўнасьцю на беларускую мову.

Апроч усяго пералічанага, робяцца захады аб арганізацыі пры магілёўскім гарадзкім тэатры беларускай трупы і хору. Магілёўскі музэй узмацняецца экспанатамі па краязнаўству. Сялянская газэта „Магілёўскі Селянін" памалу будзе пераведзена на беларускую мов. („Сав. Бел.").

### Беларусізацыя ў Віцебшчыне.

Імкненьне к навучаньню беларускае мовы ахоплівае шырокія колы рабочых і сялян. З розных куткоў вёсак даходзяць весткі аб арганізацыі гурткоў моладзі, настаўніцтва і радавых служачых, якія з вялікай зацікаўленасьцю знаёмяцца з беларускай мовай, гісторыяй, гаспадаркай і агульнымі ўмовамі беларуса.

Акружком Віц. арган. КП(б) Бел. з'арганізаваў беларускія курсы з працаўнікоў акружкому і райкомаў гораду.

На курсы вызначаны выкладчык, добра сьвядомы беларус, і праца йдзе з вялікім пасьпехам і зацікаўленасьцю.

Радавыя ўстановы пачынаюць уводзіць беларускую мову. Аддзел народнае асьветы прыступіў к арганізацыі беларускага дзіцячага саду й рыхтуецца арганізаваць беларускія дзіцячыя дамы. Ува ўсіх школах уведзена беларуская мова, шкода толькі, што не хапае добрых, падрыхтаваных беларусаў выкладчыкаў.

Пры доме працаўнікоў асьветы арганізаваны цэлы рад беларускіх гурткоў. У працы прымаюць учасьце ўсё лепшыя настаўнікі беларусы.

На сьценах устаноў усюды пачынаюць красавацца на беларускай мове (чаго раней ня было) новыя вывескі.



## Паштовая скрынка.

**Нашым карэспандэнтам.** Часта ў карэспандэнцыях аўтары іх стараюцца пераказаць словы польскіх урадоўцаў **папольску**, ды з гэтага выходзіць такая каша, што нельга зразумець, у чым справа. Вось і просім: калі ня ведаеце польскае мовы, пішыце ўсё пабеларуску, бо інакш праца марнуецца,—а падаваць „польскія" выражэньні, перакручаныя да непазнакі, мы ня можам, бо **так** ніхто з урадоўцаў напэўна ня мог выражацца!

**Якубу Шкляруку, Міхалу Казаку, Уладзімеру Якімецу, Бочны Тышкевічу, Калістрату Говорко, Аляксандру Акульскаму, Аляксандру Шпаку, Уладыславу Машко, Пятру Мышку, Міхалу Карпейчыку, Якубу Лісюку, Яну Міхальскаму.** Па 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. **А. Макарэвічу, Паўлу Серкевічу, Васілю Клімко, Міхалу Буйко, Барысу Гардзею, А. Патаповічу, Калістрату Дудко.** Па 4 зл. атрымалі. Газэта высылаецца. **Яну Боўсюку, Зофіі Норык, Аляксеею Казлу.** Па 6 зл. атрымалі. **Мікалаю Парфенчыку,** і **Паўлу Борысу.** Па 5 зл. атрымалі. Ад **Наваграна** і ад **Веларускага Пасольскага Клюбу,** атрымана па 12 зл. Ад **Вінц. Вараксы** (Францыя) атрымана 20 франкаў=5 зл. 24 гр. Ад **Язэпа Клагшча** (Латвія) атрымана 150 лат. руб.=2 зл. 70 гр. Ад гр. **Сабалеўскага** атрымана 15 зл. Ад **Сымона Тлюховіча** і **Канстантага Беганскага**—па 1 зл. Ад **А. Кавінскаго**—3 зл. **П. Кобаку.** 10 зл. атрымалі. Рахунак вышлем лістоўна.

### Да усяго беларускага вучыцельства.

Беларуская Школьная Рада ў Вільні, маючы на мэце арганізацыю беларускіх пачатковых школ на аснове новага закону аб ужывальнасьці няпольскіх моваў у школе, прынятага Польскім Соймам 9./VII. сёлетняга году, а які ўвойдзе ў жыцьцё 1./X. 1924 году, а таксама жадаючы наладзіць беларускія вучыцельскія курсы, аб чым робяцца захады перад уладай,—гэтым зварочваецца да ўсіх настаўнікаў—беларусаў, як працуючых у школах, так і безработных, каб далі аб сабе весткі, запоўніўшы ніжэйпаданую анкету:

1. Імя і прозьвішча.
2. Век, або калі радзіўся.
3. Што скончыў.
4. Стаж (колькі гадоў вучыў і ў якой школе).
5. Ці скончыў беларускія курсы.
6. Як прыгатаваны з полёністыкі.
7. Чым цяпер займаецца.
8. Ці мае польскае абыватэльства.
9. Адрас.

Запоўніўшы гэтую анкету паводле вышэйпададзенага ўзору, Белуская Цантральная Школьная Рада ў Вільні просіць безадкладна прыслаць яе па адрасу:

Wilno, ul Wileńska 12—6.
Białoruska Centralna Rada Szkolna.

*Беларус. Цэнтр. Школ. Рада ў Вільні.*





Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.